ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 335
Год выд. XXXVI

Травень
1987 г.

## ЧАРНОБЫЛЬ: ПРЫДУШАНАЯ ПАМЯЦЬ

Чарнобыльская катастрофа пачалася перад досьвіткам 26 красавіка 1986 году. Першыя ўгодкі гэтае трагедыі газэты БССР адзначылі скупа. Два галоўныя органы рэспубліканскага друку, «Зьвязда» й «Советская Белоруссия», зьмясьцілі ідэнтычнае інтэрвію карэспандэнта Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БЕЛТА) з загадчыкам катэдры Менскага мэдыцынскага інстытуту праф. Я. Чарствым, «які ўзначальвае праблемную камісію вучоных ВНУ па (г. зн. для — Я. З.) ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі». Свой матар'ял БЕЛТА, за напускным аптымізмам, пачынае ад апісаньня вясельля ў Брагінскім раёне, каб сказаць далей, што жыцьцё людзей у зоне навокала Чарнобыля «ідзе прывычным ходам».

Як гэты «прывычны ход» выглядае, даведваемся зь некаторых усесаюзных публікацыяў, якія адзначылі ўгодкі суравейшымі штрыхамі.

Газэта «Труд», прыкладам (у нумары за 25 красавіка), у карэспандэнцыі зь Кіева пісала: «Сёньня ў гор. Прыпяці ня жывуць». Украінскі гор. Прыпяць, які ляжыць адразу-ж па другім баку беларуска-ўкраінскае мяжы, да аварыі меў 45 тыс. жыхароў.

Калі яны вернуцца ў свой горад? На гэта адказаў карэспандэнту «Труда» Віталі Масол, заступнік старшыні Рады Міністраў Украінскай ССР: «Цяжка цяпер прагназаваць. У ўсякім выпадку, як гэта ні горка ўсьведамляць, — ня хутка».

На Ўкраіне зь небясьпечнай зоны, паводля тае-ж газэты, было эвакувана 135 тыс. людзей. Зона спустошаная радыяцыяй. «Не вядуцца тут, — піша «Труд», — звычайныя гэткай пагоднай вясновай парою сельгасработы. Тэрыторыя зачыненая, хоць ёсьць у ёй чыстыя пятны, куды рээвакуаваныя два сялы, а цяпер рыхтуюцца да звароту жыхары яшчэ 16».

А што напісалі менскія газэты пра сваю рэспубліку, якая пацярпела яшчэ больш за Ўкраіну? Апісалі вясельле на Брагіншчыне... Праўда, далей гутарка карэспандэнта БЕЛТА пайшла на тэму дзяцей, якіх «больш за 60 тысячаў» было эвакуавана зь небясьпечнае зоны на Гомельшчыне.

«Усе дзеці ў пяцярпеўшых раёнах, — сказаў др. Чарствой, — узятыя на ўлік і самым старанным спосабам абсьледаваныя спэцыялістамі». «Па статыстцы, — сказаў далей Чарствой, — нараджальнасьць у раёнах, якія прылягаюць да [Чарнобыльскай] АЭС, засталася на ранейшым узроўні. Гэта, як мне здаецца, пакажчык упэўненасьці людзей у заўтрашнім дні».

Карэспандэнт БЕЛТА адчуваў патрэбу зазначыць доктару-аптыміступрапагандысту: «Яўген Давыдавіч, з нашай гутаркі можа скласьціся ўражаньне, быццам нічога сур'ёзнага не адбылося, усё добра, няма ніякіх падстаў для трывог...» Чарствой папраўіўся: «Я-б так не сказаў. Прычыны для неспакою ў нас ёсьць. У невялікай колькасьці дзяцей зарэгістраваныя выпадкі нязначнага, не небясьпечнага для здароўя, адхіленьня ад нормаў у пэрыфэрычнай крыві. Яно, можа, і ня зьвязана з радыяцыйным фонам. Цяпер прабуем вырашыць гэтую няпростую задачу».

«У *невялікай* колькасьці дзяцей, *нязначныя* адхіленьні»...

«Сельская газета» за 26 красавіка зьмясьціла матар'ял, зазначыўшы, што гэта — рэпартаж з «зоны асаблівае ўвагі», пра пасяўную кампанію на Брагіншчыне. Загаловак артыкулу — «Поле турботаў і надзеяў». Турботаў стае: не хапае кадраў, тэхнікі. Але вось што паказальна. «Даводзілася бачыць, — піша газэта, — які шлейф пылу ўздымалі за сабой трактары. Між тым кабіны іхныя загермэтызаваныя не дастаткова».

Сяўба ў загермэтызаваных кабінах! Які-ж гэта прадукт вырасьце на полі, на якім сяўбіт мусіць працаваць у загермэтызаванай кабіне? Хто яго будзе есьці? Але разглядам падобных пытаньняў менскія органы друку ліш не не займаліся. Іх цікавілі больш

( Прац. на 8-й б.)

**Анатоль Вярцінскі**

НЕСПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ

«Гора — не бяда, бяда — ня гора:
пабыла — сплыла, нібы вада.
Няма праўды — гэта ўжо горай,
гэта ўжо цэлая бяда.
Гора — не бяда, бяда — не гора...» —
гаварыў так часта дзед Рыгор,
хоць да майго дзеда да Рыгора
гора і заходзіла на двор.
Сыпіць мой продак, соснамі адпеты,
Я жыву — яго і плоць і косьць.
На маім рахунку ёсьць і беды,
на маім рахунку гора ёсьць.
Знаю добра іхні горкі прысмак,
іхні смак. І знаю я яшчэ —
як несправядлівасьць, нібы прысак,
твае сэрца раптам апячэ.
Я спасьціг, што беды —
непазбежнасьць,
нямінучы спадарожнік мой.
Я прызнаў жалезную залежнасьць
ад прыроды — мёртвай і жывой.
Я сьцярплю усе яе няміласьці,
і капрызы, і сюрпрызы ўсе.
Толькі аднаго —
несправядлівасьці
чалавечы дух мой не зьнясе.
«Гора — не бяда, бяда — ня гора, —
я кажу, як гаварыў мой дзед. —
Вось несправядлівасьць —
гэта горай,
гэта горай ад усякіх бед».

*Анатоль Вярцінскі цяпер — рэдактар газэты «Літаратура і Мастацтва».*

## ЛІСТ ДА ГАРБАЧОВА

**Ад Рэдакцыі:** *Ніжэй зьмяшчаем перакладзены намі з расейскае мовы ліст-пэтыцыю да Гарбачова ад 28-х дзеячоў культуры савецкай Беларусі ў справе «ратаваньня беларускага народу ад духовага выміраньня».*

### ГЕНЭРАЛЬНАМУ САКРАТАРУ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КПСС ТАВАРЫШУ ГАРБАЧОВУ МІХАІЛУ СЯРГЕЕВІЧУ

Паважны Міхаіл Сягеевіч!

Зварачаемся да Вас у скрайне хвалюючым пытаньні долі беларускае мовы. Цяперашнім часам, часам абнаўленьня ўва ўсіх сфэрах жыцьця савецкага грамадзтва, часам перагляду нашых дасягненьняў, недахопаў і памылак, пытаньні гарманічнага й паўнакроўнага разьвіцьця нацыянальнае культуры вымагаюць асаблівае ўвагі.

Мова — душа народу, найвышэйшае выяўленьне ягонае культурнае самабытнасьці, аснова паўнавартаснага духовага існаваньня. Пакуль жыве родная мова, жыве, мае гістарычную пэрспэктыву і народ. З заняпадам мовы чэзьне, дэградуе культура, народ перастае існаваць як нацыянальны гістарычны арганізм, як бясцэнная складовая частка цывілізацыі.

Мова нашага народу прайшла даўгі й складаны шлях разьвіцьця. Былі ў яе пэрыяды і заняпаду і красаваньня. Яна, што вырасла з агульных усходнеславянскіх каранёў, набыла непаўторныя, самабытныя рысы, годна служыла нашаму народу — мела статус дзяржаўнае мовы ў вялікай сярэднявечнай дзяржаве, горда прагучэла із старонак першае ўсходнеславянскае кнігі, дала сьвету цудоўныя ўзоры беларускае літаратуры.

А цяжкімі часінамі забаранялася ды ўсяляк прыніжалася прыгнятальнікамі — палянізатарамі й русыфікатарамі.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя адчыніла шырокія магчымасьці для разьвіцьця беларускае мовы й культуры. Ладныя ўдачы ў гэтай справе былі дасягнутыя першым дзесяцігодзьдзем савецкае ўлады. Кампартыя і ўрад Беларусі, кіруючыся ленінскімі прынцыпамі й карэннымі інтарэсамі народу, правялі ў 20-ых гадох беларусізацыю ўсіх сфэраў жыцьця грамадзтва — дзяржаўнага й партыйнага апарату, школаў, унівэрсытэту, іншых навучальных установаў, што станаўкім парадкам спрыяла росквіту беларускае савецкае культуры ды росту сьведамасьці шырокіх народных масаў.

Аднак адступленьні за часамі культу асобы ад ленінскіх прынцыпаў нацыянальнае палітыкі, вульгарна-сацыялягічны падыход да разьвязаньня складаных заданьняў разьвіцьця літаратуры й мастацтва ды, нарэшце, рэпрэсіі ў дачыненьні да нацыянальнае інтэлегенцы ў 30-х гадох нанесьлі беларускай культуры непапраўныя страты. Апошняя вайна паглыбіла разбуральны працэс.

Незважаючы на гэта, яшчэ цэлае дзесяцігодзьдзе па вайне на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі існавала шырокая сетка школаў у роднай мове. Ад сярэдзіны 50-х гадоў, за часамі валюнтарызму, інтэнсыўна ліквідаваліся беларускія школы ў гарадох, шэраг беларускіх пэрыядычных выданьняў быў пераведзены ў расейскую мову, родная мова была выціснутая блізу з усіх сфэраў жыцьця грамадзтва.

> ***«Месяц таму ў Саюзе пісьменьнікаў БССР падводзілі вынікі 'Кнігавага тыдня', і блізу ўсе госьці, якія выступалі, выказваліся пра адно адкрыцьцё, якое іх даволі засмуціла. яны даведаліся, што ні ў сталіцы Беларусі Менску, ні ў адным з абласных цэнтраў, ні ў горадзе й нават у гарадзкім пасёлку рэспублікі практычна няма ні аднае беларускае школы. Ёсьць ангельскія, францускія, гішпанскія — а беларускіх няма».*** — Ніл Гілевіч, першы сакратар управы Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, на ўсесаюзным пісьменьніцкім пленуме ў Маскве. «Литературная газета», 6.V.1987.

За апошнія два дзесяцігодзьдзі гэты працэс паглыбіўся. Палажэньне зь беларускімі школамі ў селавой мясцовасьці выразна пагоршала. Цяпер яны часта беларускія адно намінальна, паколькі бальшыня дысцыплінаў, асабліва ў старэйшых клясах, выкладаецца парасейску. Сотні селавых школаў ужо афіцыйна пераведзеныя ў расейскую мову навучаньня. Катастрафічна зьмяншаецца лік вучняў, што навучаюцца ў беларускіх школах. Гэтак, у 1983 г., у першую клясу зь беларускай моваю навучаньня прыйшло, мяркуючы паводля тыража беларускага «Буквара», 44 тыс. навучэнцаў, а ў 1986 г. — 34 тыс., што становіць толькі 25% ад агульнага ліку першаклясьнікаўсямігодак, г. зн. у сёлетнім годзе толькі чверць усіх першаклясьнікаў рэспублікі пайшлі ў школу зь беларускімі букварамі.

Да таго-ж у навучаньні беларускай моваю ў сыстэме народнае асьветы няма ніякае пераемнасьці. У зусім запушчаным, мізэрным стане знаходзіцца дашкольнае ўзгадаваньне ў роднай мове. Няма беларускамоўных ВНУ, тэхнікумаў, вучылішчаў. Вось ужо колькі дзесяткоў гадоў як

(Прац на 8-й б.)

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ДВА ПАГЛЯДЫ НА КУЛЬТУРУ
## ПІСЬМЕНЬНІКА Й МІНІСТРА

Шмат у беларускім савецкім друку сёньня пішацца пра стан нацыянальнае культуры, культуры ў горадзе й культуры на вёсцы. Пра тое, як выглядае справа зь беларускай культурай на вёсцы, пісаў у газэце «Літаратура і мастацтва» (30.I.87) пісьменьнік Навум Гальпяровіч. Кажучы словамі Гальпяровіча: «ня культура, а жах».

Але міністар культуры БССР Міхневіч мае іншы пагляд. Паводля Міхневіча («Сельская Газета», 20.II.87), з культурай на вёсцы ўсё нармальна. Як маглі ў друку зьявіцца гэткія дыямэтральна супрацьлеглыя пагляды на адну й тую-ж праблему?

Навум Гальпяровіч у сваім артыкуле пад заг. «Выхоўваем на якіх узорах?» піша: «Чаму зь вясковай сцэны ня гучыць беларускае слова? Ні вершаў, ні рэпрыз, ні п'ес ці гумарэсак, ні песень, нарэшце, не пачуеш? Ні плякату, ні лёзунгу на роднай мове таксама ня сустрэнеш». Чаму ў вёску не прыяжджаюць пісьменьнікі, артысты, лектары? Чаму так сумна і ціха ў клюбе, нават там, дзе — аксаміт і мяккія крэслы, куды водзяць дэлегацыі і карэспандэнтаў?» — пытаецца Навум Гальпяровіч.

Ды ці адзін Гальпяровічаў артыкул апублікаваны апошнім часам пра культурнае запусьценьне вёскі? Дзесяткі падобных матар'ялаў зьявіліся ў рэспубліканскім друку.

Пра падобныя матар'ялы, думаецца, павінен быў-бы ведаць і міністар культуры БССР Юры Міхневіч. Але калі Гальпяровіаў артыкул у «ЛіМе» Міхневіч і прачытаў, дык з рэакцыяй пакуль што марудзіць.

Міністар культуры БССР Міхневіч, трэба прызнацца, рэдкі госьць на сторонках друку рэспублікі. Таксама, дарэчы, і міністар асьветы рэспублікі ня вельмі любіць цешыць чытача газэтаў сваймі артыкуламі. Але неяк так здарылася, што міністар культуры Міхневіч грымнуў артыкулам пра стан культуры на вёсцы ў «Сельской Газете». Тэма міністэрскіх выказваньняў — тая-же, што і ў артыкуле Навума Гальпяровіча: якая яна, культура, на вёсцы?

І што-ж Міхневіч напісаў пра культуру на вёсцы? А яна, культура, паводля высокага чыноўніка, жыве ды яшчэ як: будуюцца новыя клюбы, дамы адпачынку, растуць вясковыя бібліятэкі, праводзіцца мастацкая самадзейнасьць, моладзь весяліцца, танцуе, сьпявае і гэтак далей ў такім-жа духу самсазадаволеньня й супакою.

Праўда, у невялічкім абзацыку свайго артыкулу Міхневіч лёгка праехаўся па халтуры й бязгустоўнасьці, неарганізаванасьці й бездаказнасьці ў паасобных вясковых клюбах — стандартнае нараканьне, якімі карысталіся бюракраты ўсіх пэрыядаў савецкае гісторыі. Але праблема ня ў гэтым. Ніхто не аспрэчвае таго, што вясковыя клюбы, атрымоўваюць як дзяржаўныя, гэтак і калгасныя датацыі для свае працы, што ў сельскую мясцовасьць пасылаюцца кадры культпрацаўнікоў. Пытаньне ў тым, *якую* культуру нясуць гэтыя адукаваныя працаўнікі на вёску? Наколькі яны ведаюць *беларускую* культуру і як ставяцца да яе? Вось міністар культуры Міхневіч крытыкуе вясковыя клюбы за халтуру й бязгустоўнасьць, але чаму той-жа міністар маўчыць пра заняпад нацыянальнае культуры?

Як там на вёсцы, таварыш міністар, з родным словам? У якой мове лектары чытаюць свае лекцыі на вёсцы? У якой мове афармленыя дарожныя й вулічныя шыльды? Які працэнт беларускіх кніжак у вясковых бібліятэках? Няўжо статыстыка, запраўдная, можа быць страшной для чытача газэты? Дык чаму-ж яе не падаць? Сёньня-ж час галоснасьці!

А можа проста Міністэрства культуры не гатовае яшчэ да галоснасьці? Можа яно ня ведае, які працэнт беларускамоўных кніжак у сельскіх бібліятэках, колькі беларускіх літаратурных часапісаў рассылаецца ў селявую мясцовасьць? Выходзіць, што ня ведае.

У друку савецкай Беларусі выступаюць сёньня пісьменьнікі, гісторыкі, настаўнікі, радавыя чытачы, пішуць пра жахлівы стан нацыянальнае культуры, адукацыі, а Міністэрства культуры, Міністэрства асьветы, пераважна адмоўчваюцца, а калі й выступаюць прадстаўнікі гэтых установаў, дык расцаніць іхныя выступленьні аніяк нельга інакш як проста адпіскі.

Ведама, што з культурай, з асьветай у Беларускай рэспубліцы справы выглядаюць ненармальна, але, прачытаўшы артыкул таго-ж Міхневіча, пра гэта ня скажаш. Капіталаўклады ў культурнае будаўніцтва, у пабудову клюбаў, кажа Міхневіч, растуць, самадзейнасьць разьвіваецца, дык чаго-ж вам яшчэ трэба — усё нармальна. Але гэтае «нармальна» толькі для бюракратаў у Міністэрствах культуры й асьветы, а не для людзей, якія дбаюць пра сваю культуру — нацыянальную, пра сваю школу — нацыянальную.

Афіцыйныя інстанцыі, якія запраўляюць культурай у рэспубліцы і надалей робяць уражаньне, што ня бачаць запраўднага стану рэчаў, і надалей пушчаюць дым ў вочы чытачом газэтаў аб гэтак званых дасягненьнях культуры ў рэспубліцы.

**Алесь Васілеўскі**

### ГАРАДЖАНЕ Й МОВА

У гарадох сучаснай Беларусі «85% мігрантаў, выхадцаў зь сяла, часткова валодаюць расейскай мовай. У той-жа час 93% гараджанаў у пэўнай ступені валодаюць беларускай мовай, больш за палавіну іх піша, чытае, гаворыць пабеларуску».

Лікі гэтыя падаў І. М. Браім, рэцэнзэнт кнігі Г. І. Касьпяровіча «Миграция населения в города и этнические процессы» (Менск, 1985). Рэцэнзія зьмешчаная ў «Весьцях» АН БССР, сэрыя грамадзкіх навук, 1986, № 6, б. 118.

## АДЗНАЧЭНЬНЕ ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ КАТАСТРОФЫ

Зь ініцыятывы Саюзу Ўкраінскіх Студэнтаў імя Міхноўскага 1-га травеня ў Нью-Ёрку была арганізаваная дэманстрацыя на адзначэньне ўгодкаў катастрофы ў Чарнобылі. Дэманстрацыя адбылася насупраць будынку Арганізацыі Аб'едналых Нацыяў. У ёй узялі ўдзел таксама прадстаўнікі арганізацыяў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Саюзу Змагароў за Свабоду Афганістану ды арганізацыяў балтыцкіх народаў. Дэманстрацыя прыцягнула ўвагу працаўнікоў і дыпляматычнага пэрсаналу ААН, яе фатаграфавалі й відэазапісвалі.



*На месцы дэманстрацыі перад пачаткам мітынгу. (Фота Рычарда Валінскага).*

Беларуская група вызначалася вельмі ўдалымі транспарэнтамі-лёзунгамі (графіка сп. Уладзімера Русака). Выступаючы на дэманстрацыі ад Беларусаў, др. Вітаўт Кіпель сказаў: «У ходзе разбудовы Расейскае Імпэрыі загінулі мільёны Беларусаў і Украінцаў як ахвяры нацыянальнага прыгнёту. Аднак шырокі сьвет даведваўся аб гэтым вельмі позна. Мінулага-ж году аб непасрэдных ахвярах чарнобыльскай катастрофы, украінскім і беларускім жыхарстве, шырокі сьвет даведаўся бадай адразу, хоць дакладных дадзеных пра маштабы чарнобыльскай аварыі савецкі урад нікалі не падаў. Чарнобыльская катастрофа сталася, бясспрэчна, здарэньнем міжнароднага значаньня, аднак непасрэдны й найбольшы цяжар паў на Беларусаў і Украінцаў, і гэтая трагедыя становіцца ў шэраг народагубнае палітыкі Маскоўскага ўраду ў дачыненьні да нерасейскіх народаў імпэрыі».

Дэманстрацыя закончылася агульным сьпяваньнем малітваў.

## ПАРАНЕНАЯ ЗЯМЛЯ

Член-карэспандэнт АН БССР, др. сельскагаспадарскіх навукаў, праф. І. Нікітчанка даў жыхаром Гомельскае й Магілеўскае вобласьцяў гэткія парады (газ. «Советская Белоруссия», 18.IV.87):

«Усё леташняе сьмяцьцё — старое лісьцё, галінкі, што на зямлі, сухое зельле трэба сабраць і закапаць на глыбіню ня менш як адзін мэтар — там, дзе не плянуецца саджэньне дрэваў або ягадаў. Зьверху яму засыпаць чыстым грунтам на 20-25 цэнтымэтраў.

«На дзялянцы, дзе гэта ня зроблена мінулае восені, глебу можна праварпнаваць, унесьці ў кожную сотку па 5-6 кіляграмаў падвойнага суперфасфату ды гэтульні-ж хлёрыстага ці сернакіслага калію. Цэаліту [г. зн. спэцыяльных глінiстых пародаў, што павышаюць паглынальныя якасьці глебы — рэд. «Б-са»] трэба даваць па 80-100 кг. на сотку. Апрача гэтага, трэба даць на гэтыя-ж плошчы па 50-60 кг. вапны... Арганіку раім выкарыстоўваць толькі пасьля ейнае радыялягічнае праверкі. Ня можна ўжываць на ўгнаеньне дрывеснага й тарфянога попелу.

«На градах пажадана гадаваць карняплоды. Ад гароху, фасолі, бабоў давядзецца адмовіцца. Таматы трэба пасадзіць у ямкі, запраўленыя торфам, узятым з глыбіні. Гуркі, калі падрастуць, пажадана ўзьняць над зямлёй, каб косы не датыкаліся да грунту.

«Кароваў пасьвіць можна на максымальна чыстых пашах, калі трава падымецца на 15 цэнтымэтраў. Нельга ганяць жывёлу ў лес. Малако паранейшаму лепш здаваць на перапрацоўку.

«Ад зьбіраньня грыбоў, лоўлі рыбы ў вадаёмах некаторых раёнаў Гомельскай вобласьці, а таксама ў Слаўгарадзкім, Краснапольскім, Чэрыкаўскім, Касьцюковіцкім і Клімавіцкім раёнах Магілеўскае вобласьці мы раім сёлета ўстрымацца».

Дадатковая бяда аднак яшчэ і ў тым, што шмат якіх матар'ялаў, патрэбных для змаганьня з радыяцыяй, няма. У тым-жа нумары «Сов. Белоруссии» рэдакцыя газэты зазначае: «Пастачаньне цэалітаў, якія асабліва важна ўнесьці на гароды для саджэньня гароднiны, таксама, нажаль, затрымваецца, і ў сёлетнім годзе гаспадры сядзібаў іх наагул ці дастануць».

### РАДЫЯАКТЫЎНАЕ МАЛАКО

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (5.II.87) падала вестку аб тым, што ўрад Заходняй Нямеччыны заявіў пра свой намер закупіць тры тысячы тонаў малочнага парашку, заражанага радыяцыяй ад чарнобыльскае аварыі, і зьнішчыць яго. Парашок быў зроблены з малака ад кароваў у Баварыі.

### МАЛІТВЫ ЗА АХВЯРАЎ ЧАРНОБЫЛЯ

У езуіцкім Цэнтры Духовага Абнаўленьня ў Пікерынгу, у канадзкай правінцыі Антарыё, у нядзелю 26-га красавіка сёлета першыя ўгодкі чарнобыльскае катастрофы былі адзначаныя ў часе Сьв. літургіі малітвамі за Беларускі Народ, за ахвяраў Чарнобыля, а таксама за Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікоў а. Ал. Надсона ды за вязьня сумленьня ў савецкім канцлягеры Міхала Кукабаку.

*Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вітае Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы з нагоды 70-годзьдзя ад ягонага нараджэньня ды жадае Ўладыку добрага здароўя й далейшай плённай працы для дабра Царквы й Беларускага Народу.*

*Няхай Вашая стойкасьць, Уладыка Мікалай, у абароне беларускай незалежнай праваслаўнай Царквы, ейных гістарычных традыцыяў і беларускае мовы будзе прыкладам для іншых веравызнаньняў Беларускага Народу.*

*Многія леты!*

**Управа БАЗА**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Працяг з папярэдняга нумару)

ЛЁНДАН, АҤГЕЛЬШЧЫНА

Угодкі абвешчаньня Незалежнасьці БНР Беларусы Лёнлану й выколіцаў адсьвяткавалі ў сыботу 4 красавіка ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Урачыстасьць, якую арганізаваў лёнданскі аддзел ЗБВБ, адчыніў сп. А. Ражанец, старшыня аддзелу. Былі прачытаныя прывітальныя лісты й тэлеграмы ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Ёрку, Беларускага Каардынацыйнагака К-ту ў Чыкага, Арганізацыйнага К-ту ў Лёс-Анджэлесе, Згуртаваньня Беларусаў Канады ды Галоўнага штабу Беларускага Вызвольнага Фронту ў Зах. Нямеччыне.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Ражанец, даўшы грунтоўны агляд гістарычных падзеяў. Гаварыў дакладчык і пра сучасную Беларусь, пра інтэнсыўную кампанію русыфікацыі, якую праводзіць савецкая ўлада.

Айцец Ал. Надсон падзаліўся сваймі ўражаньнямі ад падарожжа ў Новую Зэландыю, Аўстралію й ЗША.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Сп. Ал. Лашук, сакратар аддзелу ЗБВБ, паінфармаваў пра крытычны фінансавы стан беларускае радыяпраграмы ў Пэрце ў Аўстраліі ды зьвярнуўся з просьбай аб дапамозе ахвярамі.

У часе пачастунку зьбіраліся ахвяры ў фонд «Дар Сакавіка».

*А. З.*

МЭЛЬБУРН, АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Мэльбурну адзначылі 69-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў нядзелю 29-га. Як і ўгодкі Слуцкага Чыну, сьвяткавалі разам: Беларускім Цэнтральны Камітэт і парафія БАПЦ у Мэльбурне.

Сьв. Літургію й малебен за Беларускі народ адслужыў настаяцель парафіі а. А. Кулакоўскі, які ў сваёй пропаведзі заклікаў суродзічаў да супольнай згоднай працы. Багаслужба закончылася гімнам-малітвай «Магутны Божа».

Акадэмія адбылася ў Беларускім Доме. Адчыніў яе сп. У. Сідлярэвіч, старшыня БЦК. Ён прывітаў прысутных ды прачытаў атрыманыя прывітаньні ад Беларускага Вызвольнага Фронту, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Аб'еднаньня Беларусаў у Аўстраліі, Беларускага Аб'еднаньня ў Зах. Аўстраліі, Беларусаў Паўдз. Аўстраліі ды аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку. Сп. М. Нікан вітаў асабіста ад імя Рады БНР, заклікаючы да еднасьці й згоднай працы.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. П. Гуз, звbooрачаючы ўвагу на цяжкасьці ў грамадзкай працы, алей й падкрасьляючы канечную патрэбу гэтай працы для дабра беларускае справы.

Па рэфэраце сп. У. Сідлярэвіч прачытаў артыкул з прэсы пра чарнобыльскую трагедыю, якая моцна ўдарыла па Беларусі.

Мастацкая частка складалася зь літаратурных чытаньняў: сп-ня В. Шэйпак прачытала верш Ул. Караткевіча «На Беларусі Бог жыве»; сп. М. Скабей — верш Са Ал. Салаўя «Мая Беларусь» і верш зь «Нівы» пра чарнобыльскую катастрофу; сп. А. Груша — верш «Пагоня»; сп. П. Гуз — верш Ул. Караткевіча «Дзе мой край?»

Акадэмія закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. Пасьля адбыўся традыцыйны сяброўскі пачастунак.

ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Заходнай Аўстраліі ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БСР сьвяткавалі у сыботу 28 сакавіка ў Беларускім Народным Доме ў Пэрце. Было приемна бачыць большую колькасьць моладзі, што паказвае на рост зацікаўленьня сярод яе да спадчыны бацькоў. Ужо больш за год як моладзь бярэ актыўны ўдзел у грамадзкай працы, займае ключавые становішчы, выконвае галоўны функцыі ў мясцовай дзейнасьці. Шкада толькі, што веда бацькоўскае мовы ня моцная. Робяцца пляны, каб наладзіць беларусаведныя курсы для маладых.

Сьвяткавальную праграму адчыніў зьмястоўным словам М. Раецкі-малодшы, старшыня БАЎЗА. Вітаючы ўдзельнікаў сьвяткаваньня, ён падзякаваў ім за прыбыцьцё выкананьне нацыянальнага абавязку. Па адыграньні беларускага й аўстралійскага нацыянальных гімнаў сакратар Аб'еднаньня прачытаў атраманыя прывітаньні: ад Згуртаваньня Беларусаў Канады, аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку, Беларусаў Лёс-Анджэлесу, Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Мэльбурне, Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдз. Аўстраліі ды старшыні сэктару Рады БНР у Аўстраліі.

Даклад пра акт абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, паангельску, прачытаў старшыня БАЎЗА М. Раецкі-малодшы, а сакратар Аб'еднаньня прачытаў рэфэрат на тэму «Значаньне 25 Сакавіка для беларускага народу, асабліва для моладзі».

Цікавым водгукам ад імя моладзі былі словы старшыні БАЎЗА: «Мы, моладзь, хоць і ня ведаем добара свае мовы й гісторыі, але мы носім ідэал 25-га Сакавіка ў нашым сэрцы, і мы таксама прыкладзем свае сілы, каб Беларускі Народ быў вольны й незалежны».

Усе ўдзельнікі былі вельмі задаволеныя з праведзнага сьвяткаваньня. Урачыстасць закончылася агульным пачатстункам, за наладжаньне якога

*(Заканчэньне на 4-й б.)*

# АРХІЕПІСКАПУ МІКАЛАЮ 70 ГАДОЎ



*Архіепіскап Мікалай у царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд-Парку, штат Н.-Дж., у дзень Сакавіковага сьвяткаваньня 29.III.1986 году. (Фота А. Дубягі).*

**Першаму Гіерарху**
**Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**
**Высокапрэасьвяшчэннаму Архіепіскапу Мікалаю**
**Таронта, Канада**

*Высокапрэасьвяшчэнны Ўладыка Мікалай!*
*Дазвольце сардэчна прывітаць Вас зь 70-мі ўгодкамі Вашага народжаньня ды злажыць з гэтай нагоды нашы найлепшыя пажаданьні добрага здароўя. Мы просім Усемагутнага, каб меў Вас у сваёй апецы і даў Вам сілу ўзначальваць нашую Сьвятую Царкву праз доўгія гады ды прадаўжаць працу на карысьць Беларускага Народу.*

*МНОГАЯ ЛЕТА ВАМ, УЛАДЫКА!*
*Гайленд-Парк, Н.-Дж., 7 травеня 1987 г.*

**Вашыя ў Хрысьце**
**Мітр. Прат. а. Карн Стар**

**Тамаш Супрун,**
**Старшыня Парафіяльнай Рады**
**царквы Сьв. Жыровіцкай Маці Божай**

**Васіль Русак,**
**Сакратар Парафіяльнай Рады**

**Першаму Гіерарху Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**
**Высокапрэасьвяшчэннаму Архіепіскапу Мікалаю**
**Таронта, Канада**

*Высокапрэасьвяшчэнны Ўладыка Мікалай!*

*Дазвольце прывітаць Вас зь 70-мі ўгодкамі Вашага жыцьця ды злажыць нашыя шчырыя пажаданьні добрага здароўя й сілы прадаўжаць весьці Сьвятую Беларускую Праваслаўную Царкву ды працаваць на карысьць Беларускай Эміграцыі й Беларускага Народу.*
*Гайленд-Парк, Н.-Дж., 9 травеня 1987 г.*

**З глыбокаю пашанаю да Вас**
**Пётра Кажура,**
**Старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы**

**Міхась Тулейка,**
**Сакратар аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы**

# 20-ГОДЗЬДЗЕ ПАРАФІІ Ў ДЭТРОЙЦЕ

Хутка мінае час. Наймалодшай «сястры» ў сям'і БАПЦ, парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце, споўнілася ўжо 20 гадоў: 14-га травеня 1967 г. сьв. пам. Архіепіскап Васіль так пісаў да нас: «Сьвятая Царква Хрыстовая — гэта аснова Царства Божага на зямлі, таму кожная наша парафія — гэта цаглінка ў Ягонай будове. Вось чаму й Вашая новая парафія ў Дэтройце мілая Ісусу Хрысту, бо яна будзе служыць Яму на славу і на дабро ды радасьць Вам, нам усім і нашаму шматпакутнаму Народу».

Нялёгкае аднак было разьвіцьцё нашай парафіі. У даволі цяжкай сытуацыі яна й цяпер з прычыны судовых нападаў з боку амбітна хворай групкі самазванай «царкоўнай улады», якая намагаецца праз суды загарнуць гэтую парафію пад сваю ўладу, што пагражала-б ейнаму далейшаму існаваньню.

Успомнім некалькі эпізодаў зь гісторыі парафіі. Арганізавалі яе 20 гадоў таму ня больш як тузін сяброў. Назвалі імём Сьв. Духа з думкай пра тое, што сказана ў Сьв. Пісаньні: калі Дух Сьвяты зыйшоў на Апосталаў, дык яны пачалі прапаведаваць навуку Хрыстову ў розных мовах — таму й наша беларуская мова ў маленьнях і навучаньнях будзе ўжывацца ў гэтай сьвятыні.

Спачатку зьбіраліся й маліліся ў прыватных дамох парафіянаў, а таксама карысталіся суседняй украінскай царквою, аж пакуль не здабыліся на куплю свайго храму ў 1971 годзе.

Усё гэта дасягалася дзякуючы настойлівасьці й ахвярнасьці нашых хоць нялічных але руплівых сяброў ды асабліва дзякуючы самаахвярнасьці а. Міхася Мацукевіча, потым Архімандрыта, а далей — Епіскапа Мікалая, які быў высьвечаны ў гэтыя саны Архіепіскапам Васілём і зьяўляецца запраўдным ягоным наступнікам.

Уладыка Мікалай ніколі не шкадаваў працы й выдаткаў на дапамогу нам ды заўсёды быў гатовы прыехаць з далёкага Таронта (Канада), каб абслугоўваць нашую парафію, пакуль мы не здабылі свайго настаяцеля.

Прарафія Сьв. Духа была ініцыятаркай выпісаць ствятара-Беларуса зь Беласточчыны. Пасьля доўгага ліставаньня і стараньняў перад эміграцыйнымі ўладамі прыехаў у Дэтройт а. Хведар Васілюк з матушкаю ды трыма малымі дзяцьмі. Мы здолелі забясьпечыць гэтую сямейку добрай кватэрай, а таксама, апрача малой месячнай аплаты ад парафіі, знайсьці даволі лёгкую й выгодную працу а. Хведару. Пачалося энтузіястычнае і ўзмоцненае жыцьцё ў парафіі, і здавалася лепш не магло-б быць яу на нашыя сілы.

Нажаль, а. Хведар, крыху абжыўшыся ды навязаўшы знаёмствы зь іншымі, магчыма пад уплывам збоку, пачаў дамагацца, каб нашая парафія давала яму поўнае ўтрыманьне, чаго мы аніяк не маглі зрабіць. Давялося прасіць Уладыку Мікалая, каб зьняў а. Васілюка з настаяцельства. Арх. Мікалай ня толькі выканаў нашую просьбу, але, знайшоўшы сабе заступніка для парафіі ў Тароньце, перабраўся часова ў Дэтройт, каб не дапусьціць да заняпаду нашай парафіі.




*Царква Сьв. Духа ў Дэтройце.*

У міжчасе ўдалося ўгаварыць сп. Максіма Таўпеку з Канады высьвяціцца ў сьвятары ды абслугоўваць парафію Сьв. Духа. Ізноў настаў час узлыму. Неўзабаве адбылося ўрачыстае высьвячэньне Архіепіскапам Мікалаем у нашай царкве сп. Янкі Бруцкага ў сьвятары зь вялікімі надзеямі, што гэта прывядзе да ўзмацненьня цэлае БАПЦ. Аднак, нажаль, сталася так, што гэта быў паваротны пункт у дрэнным кірунку.

Калі мы ў Дэтройце мелі часова аж двух сьвятароў, Уладыка Андрэй у Кліўленьдзе, які занямог фізычна, зьвярнуўся да ўправы нашай парафіі, каб адпусьцілі аднаго сьвятара часова абслугоўваць парафію Жыровіцкай Маці Божай у Кліўленьдзе. Мы прапанавалі нававысьвечанага а. Бруцкага, які меў-бы нагоду побач з Уладыкам Андрэем ды пратадыяканам набыць там практыку. Аднак кліўлендзкія парафіяне зажадалі лепш а. Максіма, на што мы, ня бачачы нічога дрэннага, пагадзіліся.

У Дэтройце часова служыў а. Бруцкі, а ў Кліўленьдзе а. Таўпска. Але, як было дамоўлена ў часе ягонага высьвячэньня, а. Бруцкі ў канцы году выехаў у Гайленд-Парк, каб працягваць у Украінскай Духоўнай Сэмінарыі далейшую асьвету. Нашая парафія засталася ізноў без свайго настаяцеля, бо а. Максіму спадабалася больш мацнейшая парафія ў Кліўленьдзе, а а. Бруцкаму — багацейшая парафія ў Гайленд-Парку. Адсюль пачаўся ня толькі недахоп у парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце, але й ведамы закалот у БАПЦ.

Айцец Бруцкі пад уплывам колькіх сваіх прыхільнікаў задумаў заняць месца а. Аляксандра Яноўскага як настаяцеля парафіі ў Гайленд-Парку, дзе яму было-б выгадней матар'яльна. Угаварылі хворага тады ўжо й састарэлага Мітрапаліта Андрэя, і той падтрымаў гэты плян. А калі парафіяне ў Гайленд-Парку супрацьставіліся зьмене настаяцеляў, а. Бруцкі, падтрыманы ягонымі прыхільнікамі, скіраваў справу ў сьвецкі суд, каб праз суд стацца настаяцелем парафіі ў Гайленд-Парку. Тымчасам агульны сход парафіянаў папрасіў Архіепіскапа Мікалая, каб ён узяў парафію пад сваю часовую апеку й дазволіў а. Яноўскаму далей служыць там. За гэта хутка й патаёмна высьвечаны ў епіскапы ў Украінскай Царкве «Епіскап Ізяслаў» (Бруцкі) «расстрыг» Архіепіскапа Мікалая, не зважаючы на тое, што гэты-ж Уладыка рукапаклаў яго, Бруцкага, у сьвятары. З часам Бруцкі праз сакратара свае «кансысторыі» павёў сьвецкія суды супраць усіх парафіяў БАПЦ у Амэрыцы й Канадзе за авалоданьне царкоўнай маемасьцяй. Пайшла справа ў суд і супраць парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце.

Суд у Дэтройце цягнецца ўжо чатыры гады ды каштуе нашай парафіі шмат грошай, нэрваў і працы. Справа нашая адкладаецца ў судзе ўжо колькі разоў. Судзьдзя намагаецца паяднаць абодвы бакі, пасылаючы да розных «арбітраў». З нашага боку і парафіяльная рада і Уладыка Мікалай гатовыя на мірнае паяднаньне, але нападнікі аніяк ня хочуць пагадзіца, цьвердзячы, што «кроме Изяслава иного не знаем».

На апошнім спатканьні ў судзе ў Дэтройце з нашага боку быў Уладыка Мікалай, старшыня нашай парафіяльнай рады ды сакратар, якога авантурнікі судзяць асабіста на 30 тысячаў даляраў дзеля зусім няведамых прычынаў. А з боку судзячых нас прыбыў адзіны «ўпаўнаважаны» Манькоўскі. Чакаючы на выклік да судзьдзі, наш старшыня зьвярнуўся да сп. Манькоўскага са словамі: «Дакуль-жа будзем цягацца па сьвецкіх судох? Гэта-ж каштуе шмат і вам і нам, а ёсьць магчымасьць, і пара ўжо, палагодзіць справу міжсобку дзеля дабра і нашае Царквы і беларускае справы наагул». А Манькоўскі ў адказ: «Ня можа быць ніякага паяднаньня пакуль гэты (паказваючы на Уладыку Мікалая) будзе ўмешвацца ў вашую парафію». Дык якое-ж тут «умешваньне», калі Уладыка ад самага пачатку памагаў арганізаваць нашую парафію і апякаваўся ёю?! Гэта сьветчыць аб стане глузду й маральных вартасьцях «галоўнага упаўнаважанага» ад г. зв. кансысторыі Ізяслава.

Людзі, якія цягаюць нас па судох, якія ня лічацца з судом грамадзкае думкі, застануцца ў гісторыі нашае эміграцыі як вялікія шкоднікі й разьбівальнікі царкоўнага ды грамадзкага жыцьця.

**В. А.**

### ПРА ДАНЧЫКА НА БЕЛАРУСКІМ ТБ

Як даведваемся зь неафіцыйных крыніцаў, у сакавіку сёлета на беларускім савецкім тэлебачаньні была перадача пра дасягненьні Данчыка (Андрусышына). Перадачу вёў Лёня Барткевіч, былы саліст-тэнар з ансамблю «Песьняры», муж алімпійскай чэмпіёнкі Вольгі Корбут. Зацікаўленьне песьнямі Данчыка на Беларусі, паводля нашае інфармацыі, «вельмі вялікае».

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

належыцца шчырая падзяка нашым сяброўкам. **Р.**

ТАРОНТА (КАНАДА)

69-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі Згуртаваньне Беларусаў Канады адзначала 5 красавіка ў Беларускім Рэлігійна-грамадзкім Цэнтры ў гор. Таронта. У сераду 25 сакавіка ля гарадзкой ратушы ўзьвіваўся бел-чырвона-белы сьцяг.

Багаслужба ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, малітва за паняволены беларускі народ, патрыятычная казань Уладкі Мікалая гаварылі нам аб прысутнасьці сярод нас Ісуса Хрыста, аб Ягоным Укрыжаваньні й Уваскрасеньні, аб крыжы нашай Бацькаўшчыны ды аб надзеі на ейнае ўваскрошаньне. У залі Цэнтру была наладжаная выстаўка партрэтаў змагароў за вызваленьне Беларусі, рэпрадукцыяў газэты «Наша Ніва», выстаўка народнага мастацтва ды літаратуры аб 25 Сакавіка.

Урачысты сход адчыніла старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч, прывітала прысутных: Архіепіскапа Мікалая, Старшыню Рады БНР др. Язэпа Сажыча, былога Старшыню Рады БНР др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, гасьцей ды суродзічаў з ЗША й Канады.

У сваім уводным слове кіраўнік сходу гаварыла пра абавязкі кожнага Беларуса: захоўваць нацыянальную сьведамасьць і прышчапляць яе дзецям; берагчы родную мову й перадаваць яе нашчадкам; разумець канечную патрэбу арганізаванага беларускага жыцьця; пашыраць веду пра Беларусь.

Зьмястоўны даклад на тэму дня прачытаў старшыня канадзкага сэктару Рады БНР сп. Мікола Ганько.

Вітаў сход старшыня рады БНР др. Я. Сажыч, гаварыў аб нашых недахопах.

Былы Старшыня рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч падзяліўся ўспамінамі пра бурлівыя гістарычныя падзеі ў Менску на пачатку 1918 году.

Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад: Беларускага Аб'яднаньня ў Зах. Аўстраліі (падпісаў М. Раеўскі, сакратар), аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку (А. Міцкевіч, старшыня), Беларускага Каардынацыйнага К-ту ў Чыкага (Н. Жызьнеўскі, старшыня), Сьвяткавальнага К-ту ў Лёс-Анджэлесе (Ч. Найдзюк), Беларускага Цэнтральнага К-ту ў Вікторыі (Аўстралія; Ул. Сідлярэвіч, старшыня), Галоўнае ўправы БАЗА (А. Шукелайць, старшыня), Сэктару Рады БНР у Бэльгіі (Я. Жучка, старшыня).

Кіраўнік імпрэзы падзякавала арганізатарам, дакладчыку, прамоўцам, сп-ні Марыі Ганько, пад кіраўніцтвам якое было арганізаванае застольле, маладому беластаччаніну Лявону Паплаўскаму за дапамогу ў афармленьні выстаўкі ды ўсім прысутным за ўшанаваньне сьвята Незалежнасьці.

Урачыстасьць закончылася агульным адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Р. Ж.-Г.**

**«НА КРЫЖОВАЙ ДАРОЗЕ»,** кніга ўспамінаў Аўгена Калубовіча (выданьне аўтарава, Кліўленд, 1986, 252 б.) — найбольш дэтальнае апісаньне арыштаў у савецкай Беларусі ў 1930-х гадох, турэмнага быту ў гомельскай вязьніцы ГПУ ды ў менскай «Амэрыканцы», а таксама лягернага рэжыму на ссылцы. У кнізе названа шмат прозьвішчаў арыштаваных беларускіх дзячоў. Кніга мае паказьнік прозьвішчаў.

## МАСТАЦТВА ГАЛІНЫ РУСАК

Наведаў я ў сакавіку сёлета ў галерэі Сого-20 у Мангатэне выстаўку абразоў Галіны Русак. І быў уражаны.



*Адзін з абразоў Галіны Русак на выстаўцы (24.III-11.IV.1987) у галерэі Сого-20 у Нью-Ёрку.*

Палітра Галіны своеасаблівая. Мы прызвычаіліся да мастацтва прывабнага, якое мы бачым у асноўных колерах, прыхарошанае, прынараджанае. Галіна-ж прадстаўляе нам выразнасьць, яснасьць, просталінейнасьць і шчырасьць прыроды — колеры самой прыроды: яе глінiстую рыжасьць, яе балючую выветраную сінь, яе чарназёмную бранзовасьць і яе цудоўную велічную бель.

Што адразу-ж прыцягвае вока (і розум), калі параўнаеш два або тры ейныя абразы, гэта — як часта Галіна вабіць нас арганічнай расьліннасьцяй — лозы, кветкі, дрэвы; ці сылюэтамі з жывёльнага сьвету — ваўкі, пеўнікі або жураўлі... Ды раптам зьдзіўляе нас арганізаваным мастацкім упарадкаваньнем лініяў, кубікаў і кутоў.

Спосаб, якім мастачка ўцелаўляе ідэю кожнага малюнку, застае гледача зьнянацку, як і шмат ейных загалоўкаў. Кветкі й зелень прадстаўляюцца ў надзвычайным спэктары чорных, чырвоных і зялёных хварбаў. Але вось раптам мастачка выбірае элемэнты з гэтага «сыравінага матар'ялу» і падае іх нам у лінейчастым вобразе, разьдзяляючы яго ды падкрэсьляючы кветкавы матыў.

Ейныя «Багіня Зямлі» і «Людзі лесу» закранаюць унівэрсальныя тэмы — твары-маскі ды першабытныя матывы, якія ўласьцівыя культурам іншых народаў далёкіх ад ейнай роднай Беларусі. Як гэта выходзіць, што нашая людзкая сям'я няўхільна зварачаецца да пэўных паўторных тэмаў (нават лініяў), нават тады, калі адны ад адных жывуць так далёка?

Выстаўка абразоў Галіны Русак у Сого-20 — гэта выразна новы крок мастачкі ў ейным далейшым росьце й разьвіцьці ды самапазнаньні. Гэта выстаўка, на якой даўныя прыхільнікі Галініных твораў, таксама як і новыя наведвальнікі, знойдуць ейныя абразы ўзбуджальнымі, інтрыгуючымі ды павучальнымі.

**Т. Э. Б.**

## ВЫСТАЎКІ ЛЁНІКА ТАРАСЭВІЧА

У Нью-Ёрку 15 травеня ў мастацкай галерэі Дамондта, а 16 травеня ў галерэі Торпа (абедзьве галерэі знаходзяцца ў ведамым раёне Сого ў Мангатэне) адчыніліся выстаўкі карцінаў Лёніка Тарасэвіча, маладога беларускага мастака зь Беласточчыны. Мастак быў запрошаны амэрыканскімі галерэямі ў Нью-Ёрк пасьля ягоных выставак у Стакгольме й Лёндане. У разасланых пра выстаўкі паведамленьнях пададзены пералік дасюлешніх індывідуальных і груповых выставак мастака, сярод якіх згадваецца і адна зь першых выставак Лёніка Тарасэвіча, арганізаваная Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам у Варшаве. Мастак меў свае выстаўкі ў шмат якіх гарадох Польшчы, Ангельшчыны, Швэцыі ды Італіі.



*Лёнік Тарасэвіч*

Лёнік Тарасэвіч нарадзіўся ў 1957 г. каля мястэчка Гарадок на Беласточчыне. Ад 1979 да 1984 г. вучыўся ў Акадэміі Прыгожых Мастацтваў у Варшаве. Шырэйшаму беларускаму грамадзтву Лёнік Тарасэвіч ведамы як здольны мастак-карыкатурыст, супрацоўнік часапісу беларускіх студэнтаў у Варшаве «Сустрэчы», ды як мастак-ілюстратар «Беларускіх Календароў», якія выдаюцца ў Беластоку.



*Фрагмэнт палатна Лёніка Тарасэвіча (алей, 67цаляў на 102) на выстаўцы ў Нью-Ёрку.*

Малюнкі Лёніка Тарасэвіча арыгінальныя й цікавыя. Яны адлюстроўваюць прыроду, у асноўным лес, простым, часта амаль штрыхавым спосабам, камбінацыяй яскравых, але ня крыклівых, а густоўных колерных кантрастаў і лініяў. Лес у мастака то стройны, асьвечаны сонцам сасоньнік зь ярка-жоўтымі й агніста-рыжаватымі бакавінамі камлёў, то цёмны, начны, халодна-срабрысты; лес асьветлены касаватымі прамянямі ўзыходзячага сонца, і лес узімку, запарошаны, засьнежаны. Ёсьць у яго і маладзенькія пасадкі і вясёлаватыя колерныя пралескі. Бясспрэчна: пушча, лес, лясная прырода — асноўны стымул і галоўная тэма творчасьці Лёніка Тарасэвіча, ураджэнца спад Белавескай пушчы. Глядач-Беларус угледжвае ў Лёнікавых працах нешта асабліва беларускае: найперш рэальна падхопленыя лясныя адценьні й колер, лясныя матывы-арнамэнты, якія нам гэтак нагадваюць нашыя дываны-дзяружкі, веліч беларускае пушчы ды наагул магутнасьць лесу ў нашай прыродзе.

Асабліва-ж уразаецца ў памяць вялізарнае пано, адзіны назоў якому быў-бы «Лес сьсечаны». На засьнежаным прасторы стаяць рады й рады, як бы акрываўленых, з аранжавата-чырвонаватымі сьпіламі пнёў. Аднак ні гэтае пано ні іншыя абразы мастака ня маюць назоваў — яны беззазоўныя. Мастак мае сваё бачаньне прыроды, зафіксаваў сваё ўражаньне, уклаў свае ідэі, але... пакінуў гледачу магчымасьць асацыяваць бачанае з уласнымі перажываньнямі ды ўяўленьнямі. Беларускаму гледачу Лёнікаў «Сьсечаны лес» нагадае напэўна сьсечаныя лясы Полаччыны, ці Меншчыны, ці Магілеўшчыны, у гледача не-Беларуса абраз мастака можа выклікаць з багажу памяці толькі яму ведамы вобраз, а то мо й абстрактнасьць. У гэтым талент Лёніка Тарасэвіча — ён і тыпова беларускі, ён і агульналюдзкі.

Знаёмства амэрыканскіх Беларусаў зь земляком і ягонай творчасьцю адбылося ўпяршыню. Але першае знаёмства пакінула трывалае й прыемнае ўражаньне ды жаданьне сустрэцца ў будучыні з новымі працамі Лёніка Тарасэвіча.

**В. Зубкоўскі**

## УДЗЕЛ У ФЭСТЫВАЛІ

Сёлета ўжо шосты раз як Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне наладзіла выстаўку беларускага народнага мастацтва на Славянскім Фэстывалі ў Пэнсыльванскім Штатавым Унівэрсытэце. Фэстываль адбыўся 27 і 28 сакавіка, быў наладжаны аддзелам Славянскіх моваў. Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі «Васілёк» ужо два разы выступаў зь вялікім посьпехам на папярэдніх фэстывалях.



*Сп. Мікола Шуст і сп-чна Раіса Станкевіч ля беларускага стэнду. (Фота М. Шуста).*

Сёлета апрача Беларусаў у фэстывалі бралі ўдзел Палякі, Расейцы, Славакі, Славэнцы, Сэрбы, Чэхі і Украінцы.

Беларуская выстаўка была вельмі багатая й прыгожая, аформленая на трох вялікіх сталох, пакрытых тканымі дзяружкамі. На сталох былі з густам раскладзеныя вышываныя народнымі вузорамі падушкі, ручнікі, тканыя паясы, інкруставаныя саломкай шкатулкі, калекцыя лялек рознага разьмеру ў народнай вопратцы.

Сёлета на выстаўку прыбыў сп. Мікола Шуст з жонкай Гэленай. На адным стале выставіў свае вырабы: шкатулкі, столікі, рамкі, аздобленыя саломкавай інкрустацыяй. Ён дэманстраваў на выстаўцы сваё умельства — інкруставаньне саломкай. Было шмат зацікаўленых: распытвалі, прыглядаліся, як Шуст выконаў свае інкрустацыі.

Побач экспанатаў ляжалкі таксама кніжкі пра беларускае народнае мастацтва, адзеньне, кухню ды інфармацыйныя брашуркі пра Беларусь. Беларуская выстаўка й праца сп. Шуста вельмі ўсім падабаліся. Шмат наведвальнікаў — студэнтаў, прафэсараў ды іншых прысутных — разглядалі экспанаты, захапляліся імі ды распытвалі пра гісторыю Беларусі й беларускую культуру.

Экспанаты на выстаўку далі: А. Шукелайць ды З. і Р. Станкевіч. Выстаўку арганізавалі ад імя ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня А. Шукелайць і Р. Станкевіч.

**Раіса Станкевіч**

## З ЖЫЦЬЦЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ



*Будаўніцтва Сьвятадухаўскай царквы ў Беластоку. Рыштаваньне збудавалі самыя вернікі талакой — сьветчаньне актыўнага масавага падтрымваньня будоўлі. Фатаздымак прысланы сп. Пётру Кажуру.*

### БУДАЎНІЦТВА СЬВЯТАДУХАЎСКАЙ ЦАРКВЫ

Як напісаў а. Серафім Жалязьняковіч зь Беластоку сп. Пётру Кажуру ў Нью-Брансьвік (ЗША), будаўнікі Сьвятадухаўскай царквы ў Беластоку (гл. «Б-с» № 333) мрояць аб тым, каб сёлета «закончыць будову з купалам і накрыць». Бяда аднак вось у чым, піша а. Серафім: «Каб давесьці будову пад дах, трэба столькі мільёнаў злотых, што сабраць у нас тут няма ніякае магчымасьці... З грашыма што раз трудней».

Будаўнікі спадзяюцца на падтрыманьне ад суродзічаў з-за мяжы. Айцец Жалязьняковіч піша: «Атрыманая дагэтуль дапамога ад Вас — нашых Суайчыньнікаў мела для нас ня толькі вельмі важнае матар'яльнае значэньне, але таксама маральнае, пабуджала да сталасьці ў высілках у гэткім трудным і цяжкім заданьні, як наша велічная будова — помнік тысячагодзьдзя нашага хрышчэньня, а якая многіх вярнула да ўсяго свайго роднага і тысячы ўберагла ды ўцьвердзіла захоўваць гэтае ўсё роднае разам са сваёй Сьвятой Верай».

### «БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ» САКРАТА ЯНОВІЧА

У варшаўскім выдавецтве «Іскры» выйшла папольску кніга Сакрата Яновіча (190 бб.) пад заг. «Беларусь, Беларусь». На вокладцы ад выдавецтва сказана: «'Беларусь, Беларусь' — гэта кніжка беларускага празаіка, які нарадзіўся й жыве ў Польшчы. Кніга — ані аповесьць, ані том апавяданьняў. Гэта ні то гутарка, ні то эсэ. Аўтар займаецца тэмай узаемадзеяньня дзьвюх культураў, перш-наперш дзьвюх літаратураў — польскай і беларускай. Выказвае шэраг неартадаксальных пагладаў, атакуючы нашыя стэрэатыпы ды нашыя навыкі думаньня. Дае нам абраз нас самых, бачаных вачыма Беларуса».

### ПЕРШЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

28 сакавіка сёлета ў Бельск-Падляскі зьехалася больш за 170 дэлегатаў (студэнтаў, абсальвэнтаў і вучняў сярэдніх школаў) на Першы ў Польскай Народнай Рэспубліцы беларускі студэнцкі зьезд. Паводля справаздачы ў газ. «Ніва» (19.IV), на працягу двух дзён трываньня зьезду на ім было вельмі шмат прамоваў на розныя арганізацыйныя і культурныя тэмы. Бельскія беларускія калектывы далі двухгадзінны канцэрт у часе зьезду. На зьезьдзе выступі з дакладамі др. Юры Туронак (пра беларускае школьніцтва ў паваеннай Беласточчыне) і пісьменьнік Сакрат Яновіч (пра беларускі студэнцкі рух у мінулым).

Зьезд прыняў шэраг пастановаў, а сярод іх і гэткія:

«8. Ад імя Зьезду накіраваць пратэстуючы ліст у Камісію па ўстанаўленьню назваў мясцовасьцяў пры Радзе Міністраў ПНР супраць палянізацыі беларускіх назваў на Беласточчыне.

«9. Зьвярнуць увагу ўладам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы пра неабходнасьць увядзеньня беларускай мовы на ўсіх дзялянках царкоўнага жыцьця;

«10. Утварыць Фонд аховы помнікаў духоўнай і матар'яльнай культуры Беларусаў у Польшчы».

### ПАДСУМАВАНЬНЕ ПЕСЕННАГА КОНКУРСУ

Конкурс «Беларуская песьня-87», як было сьцьверджана на паседжаньні галоўнай управы Беларускага Грамадзка-Культурнага Т-ва, прайшоў «на высокім мастацкім узроўні і стаўся вялікім беларускім сьвятам». У конкурсе, што адбыўся ў Беластоку 28 лютага сёлета, узяло ўдзел больш за 200 сьпевакоў, а ў тым ліку актэт (пад кіраўніцтвам Аліны Дубец) хору Душпастырства праваслаўнай моладзі. Хор існуе ад 1982 г. пры саборы Сьв. Мікалая ў Беластоку (усіх 50 харыстаў, кіраўнік Васіль Дубец).

«Ніва» (19.IV), пішучы пра гэты хор, зазначае: «Хор сьпявае і будзе расьпяваць рэлігійныя і нерэлігійныя песьні беларускія, украінскія, расейскія на гэтых мовах. Гэта вельмі важная справа, яна садзейнічае ўмацоўваньню праваслаўя, але таксама служыць і паглыбленьню нашай нацыянальнай сьвядомасьці — два аспэкты, якія на Беласточчыне немагчыма разьдзяліць».

### УГОДКІ ВІЛЕНСКАЕ «ЗАРАНКІ»

Віленскія Беларусы адзначылі ў сакавіку сёлета 60-я ўгодкі ад выхаду (18.III.1927 г.) першага нумару першага ў Вільні беларускага дзіцячага часапісу «Заранка», ініцыятарам выданьня якога была Зоська Верас (Людвіка Войцік).

Сярод супрацоўнікаў «Заранкі» былі тагачасныя паэты-пачаткоўцы Натальля Арсеньнева, Анатоль Бярозка, Малады Дзядок (Сяргей Новік-Пяюн).

На заканчэньне праграмы вечару, прысьвечанага «Заранцы», была праслуханая з кружэлкі песьня Новіка-Пяюна «Зорачкі» ў выканьні Данчыка.

### КАТАЛІЦКІЯ ПАРАФІІ НА БЕЛАРУСІ

Паводля італьянскае камуністычнае газэты «Уніта» (3.II.87), карэспандэнт якое Альчэстэ Сантыні езьдзіў у Савецкі Саюз, «на Беларусі налічваецца 104 каталіцкія парафіі, якія абслугоўваюцца 80 ксяндзамі літоўскага й польскага паходжаньня. Біскупа няма».

Пра каталікоў на Беларусі выказаўся й адзін з удзельнікаў праведзенага ў Маскве ў другой палавіне году летась «круглага стала» (гл. «Матэрыялы Самиздата» радыястанцыі «Свабода», выпуск 9/87, 30.III.87). Чалавек той, Расеец (прозьвішча ягонае не названае) сказаў:

«Актыўнасьць каталікоў, што жывуць у Ліцьве й Беларусі наагул, памойму, ніколі не спадала, паколькі яна ад разгулу атэізму ўцярпела менш і заўсёды карысталася большым падтрыманьнем Захаду. Цяпер, калі мы пра яе больш ведаем, стала відавочным, што, незважаючы на іншыя формы й моцную нацыянальна-палітычную ахварбоўку, у ёй ёсьць шмат агульнага з тым, што адбываецца ў Расеі. Аднак нацыянальная ахварбоўка да гэтага часу, прыкладам, перашкаджае каталіком-Літоўцам і праваслаўным Расейцам устанавіць міжсобку цесныя кантакты ў супрацьстаяньні бязбожжу, хоць яны цяпер адчуваюць адзін да аднаго куды больш прыязьні як, скажам, сто гадоў таму».

### ВЕСЬНІК

**Беларускага Каталіцкага**

**Душпастырства**

У нумары I(2) за сакавік 1987 г. на чатырох старонках зьмешчаныя: казань «Хрыстос Уваскрос!» і хроніка: пра падарожжа а. Аляксандра Надсона, Апостальскага Візытатара для Беларусаў, у Аўстралію, Новую Зэляндыю і ЗША; пра багаслужбы ў Парыжы (на новым месцы) ды інш. справы Беларускага Каталіцкага Душпастырства.

Бюлетэнь мае кампютарны друк (кірыліца) і добра выглядае.

### М. КУКАБАКА ВЕРНУТЫ Ў ЛЯГЕР

Міжнародная Асацыяцыя для Абароны Правоў Чалавека, якая знаходзіцца ў гор. Франкфурце ў Зах. Нямеччыне, падала да ведама (на аснове тэлефанічнага паведамленьня ад маскоўскага праваабаронца Валерыя Сэньдзерава), што Міхал Кукабака адасланы зь Віцебскае турмы назад у пермскі штрафны лягер. Кукабака быў засуджаны ў 1984 г. на 12 гадоў зьняволеньня. Яго прывезьлі былі ў Віцебск і прапанавалі волю, калі ён падпіша прызнаньне свае віны. Зрабіць гэта Кукабака адмовіўся.

Ранейшы ягоны адрас у Пермі, як падаў лёнданскі аддзел Міжнароднай Амністыі, быў гэткі:

**RSFSR, 618263 Permskaya oblast**
**Chusovskoy raion**
**P. Kuchino, Uchr. VS 389/36**
**Kukobaka M. I.**
**SOVIET UNION**

Трэба думаць, што пасыланыя на гэты адрас (заказным) лісты Кукабаку або запросіны на эміграцыю, павінны да яго дайсьці.

### ВІЗЫТ КАРДЫНАЛА ГЛЕМПА Ў БССР?

Выдаваны лёнданскім тыднёвым часапісам «Эканоміст» дадатак «Форэйн Рыпорт» у нумары за 19 сакавіка сёлета падаў, пад заг. «Беларуская таямніца», пра запросіны Мітрапалітам Менскім і Беларускім Філарэтам прымата польскае Каталіцкае Царквы Кардынала Юзэфа Глемпа наведаць Савецкі Саюз. Мэта Глемпавага візыту, паводля часапісу, — даць «духовае падтрыманьне каталіком у Беларускай рэспубліцы, якія ня маюць свайго біскупа». Часапіс пры гэтым зазначае, што Глемп не карыстаецца папулярнасьцяй сярод беларускіх каталікоў, паколькі ён не прызнае месца беларускай мове ў рэлігійным жыцьці каталікоў-Беларусаў. Часапіс інфармуе, што ў ПНР ёсьць ладная колькасьць Беларусаў, каля 250 тысячаў, але Глемп адмаўляецца дазволіць ужываць беларускую мову ў багаслужбах, і ў Польшчы няма ніводнага беларускамоўнага каталіцкага сьвятара. На беларускіх каталікоў, піша «Форэйн Рыпорт», Глемп глядзіць як на Палякоў. Гэткія пагляды не ствараюць яму добрага імя й сярод каталікоў-Беларусаў у БССР.

Лёнданскі часапіс зазначае, што Палякі наагул ня вельмі папулярныя на Беларусі, паколькі за часамі Герэка ў ПНР зачыняліся беларускія школы, праводзіўся заціск беларускай культуры.

Пры гэтым часапіс дадае, што падобна ставіцца да беларускае культуры й савецкі рэжым у БССР, намагаючыся замяніць у рэспубліцы беларускую мову мовай расейскай.

«Калі Глемп паедзе ў Беларусь, адмаўляючы й надалей Беларусам права на іхную ўласную мову ў польскіх касьцёлах, — піша «Форэйн Рыпорт», — дык сустрэча яго там, бадай, ня будзе цёплай».

Лёнданскі часапіс зазначае пры гэтым, што ў інтарэсах Крамля — трымаць разрозьненымі й дэзарганізаванымі розныя нацыянальнасьці, якія знаходзяцца пад катролем Масквы. Расейцы ведаюць, піша часапіс, што на поўначы й на паўдні ад Беларусі, у Літве й на Украіне, існуюць моцныя нацыяналістычныя рухі іншадумства. Калі-б іншадумства пашыралася таксама й на Беларусі, піша часапіс, дык гэта ставіла-б Крэмль перад паласой незадаволеных народаў уздоўж заходняга фронту ад Балтыкі да Чорнага мора.

## СЬВ. † ПАМ.
## АЎГЕН КАХАНОЎСКІ (КАЛУБОВІЧ)

Памёр 26.V.1987 г. на 75-м годзе жыцьця ў гор. Кліўленьдзе, дзе й пахаваны на беларускай дзялянцы гарадзкога магільніка Рывэрсайд. Выказваем глыбокае спачуваньне жонцы Іне Каханоўскай (Аляксандры Саковіч) і ўсім прыяцелям Нябожчыка.

**Рэдакцыя «Беларуса»**



*Адна з фатаграфіяў, што ўпрыгожваюць кнігу нарысаў і апавяданьняў Аляксандры Саковіч «У пошуках Праўды», выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк — Кліўленд, 1986. 245 б.*

## СУРОДЗІЧАМ У ПОЛЬШЧЫ

***На дапамогу Беларусам Беласточчыны пад канец 1986 г. і пачатак 1987 г. атрымалі ахвяры:***

| | |
|---|---|
| Я. Юхнавец | 12 |
| Я. Запруднік | 40 |
| А. Шукелойць | 80 |
| Р. Станкевіч | 92 |
| З. Станкевіч | 32 |
| Ю. Андрусышына | 40 |
| Др. М. Смаршчок | 25 |
| Э. Норык | 30 |
| Н. О. | 25 |
| Др. У. Набагез | 100 |
| А. Адамовіч | 120 |
| К. Мерляк | 10 |
| В. Станкевіч | 10 |
| В. Станкевіч | 5 |
| А. Рамана | 60 |
| Разам | 671 |

Было выслана 11 пачак і 8 грашовых пераказаў. Дапамаговы Аддзел у Лёс Анджэлесе у 1985 і 1986 гг. 16 пачак. Ахвяры злажылі наступныя асобы: Б. Вініцкая, К. Вініцкая, І. Арцюх, Ю. Найдзюк. Усім ахвярадаўцам шчырая падзяка.

**А. О Рамана**
**Ю. Андрусышына**

Красавік, 1987 г.

### *«ТАЙМС» ПРА ЛІСТ ДА ГАРБАЧОВА*

Лёнданская газэта «Таймс» (24.IV.87) падала пра ліст 28-х дзеячоў беларускай культуры да М. Гарбачова, даволі поўна пераказала зьмест ліста. «Таймс» зазначыў пры гэтым, што хоць БССР мае статус аднае з 16-х дзяржаваў-заснавальніцаў ААН, беларуская мова ў рэспубліцы выціснутая практычна з усіх сфэраў жыцьця.



# ПАРТЫЯ АДМАЎЛЯЕ ПРАБЛЕМУ МОВЫ

### З дакладу першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова

**Ад рэдакцыі:** *На пленуме ЦК кампартыі Беларусі, што адбыўся ў канцы сакавіка сёлета, пытаньне катастрафальнага стану беларускае культуры ў БССР, пра якое апошнімі месяцамі шырока пісалася ў друку савецкай Беларусі, не знайшло належнага разгляду. Наадварот, новы першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў у сваім дакладзе на пленуме заявіў, што зь беларускай мовай і культурай усё нармальна. Сакалоў хоць і прызнаў, што «сфэра нацыянальных адносін зусім ня простая і не беспраблемная» (тое, што было сьцьверджана на сёлетнім студзеньскім пленуме ЦК КПСС), але, як відаць з цэлага выказваньня Сакалова, «праблемнасьць» для яго — гэта ня заціск беларускае мовы, а наракані на заціск.*

*Ніжэй перадрукоўваем з газэты «Зьвязда» (27.III.1987) поўны тэкст выказваньня Я. Сакалова на пленуме ЦК КПБ на тэму беларускай культуры.*

Сфэра нацыянальных адносін зусім ня простая і не беспраблемная. Для ўсіх нас павінен быць непахісным ідучы ад У. І. Леніна запавет: праяўляць асаблівую чуткасьць і абачлівасьць ва ўсім, што закранае інтарэсы кожнай нацыі і народнасьці, нацыянальныя пачуцьці людзей, своечасова вырашаць узьнікаючыя тут пытаньні.

Партыйным і камсамольскім арганізацыям, ідэялягічным установам і ведамствам трэба дабівацца, каб уся атмасфэра нашага жыцьця і сумеснай працы, сям'я і школа, армейскі калектыў, літаратура і мастацтва фармавалі і выхоўвалі ў людзей высакародныя пачуцьці брацкай любві — павагі да вялікага рускага народу, іншых народаў краіны, імкненьне памнажаць уклад у агульнанародны здабытак.

Гэта павінна станавіцца маральнай нормай паводзін кожнага чалавека ў яго штодзённым жыцьці, на вытворчасьці, у быце.

Вялізарным дасягненьнем ленінскай нацыянальнай палітыкі стала свабоднае развіцьцё нацыянальных моваў пры адначасовым шырокім распаўсюджаньні рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін. Гэта аб'ектыўны працэс. І тое, што наша рэспубліка стала рэгіёнам развітой двухмоўнасьці, — бясспрэчна заваёва нацыянальнай палітыкі нашай партыі.

У апошнія гады ў выніку свабоднага волевыяўленьня працоўных рэспублікі намецілася некаторае звужэньне прымяненьня беларускай мовы. Сёйтой з творчых і навуковых работнікаў пасьпяшаліся зрабіць з гэтага вывад аб нібыта няправільных адносінах да культурна-моўнай спадчыны беларускага народу ў цэлым.

Падстаў для падобных сьцьверджэньняў няма.

Па-першае, ленінскі падыход, якім мы няўхільна кіруемся, грунтуецца на прызнаньні свабоды выбару мовы зносін. У нас практычна ўсё насельніцтва разумее як беларускую, так і рускую мовы. Паводля даных Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1979 году, амаль 80 працэнтаў жыхароў рэспублікі назвалі рускую мову сваёй роднай або другой роднай мовай.

Ніхто нікому ня ўказвае, на якой мове зьвяртацца да таварышаў, выступаць з трыбуны.

Ніхто нікому ня ўказвае, на якой мове пісаць вершы і раманы. Галоўнае — ідэйна-мастацкі ўзровень, грамадзка-палітычная значнасьць твору.

Па-другое, трэба ўлічваць усё больш растучыя працэсы урбанізацыі, інтэрнацыяналізацыі нашага жыцьця, рост у рэспубліцы многанацыянальных калектываў, у якіх, натуральна, сродкам зносін выступае руская мова.

Па-трэцяе, у рэспубліцы створаныя ўсе ўмовы для разьвіцьця беларускай мовы, беларускай нацыянальнай культуры ў цэлым.

Цяпер на беларускай мове выходзіць 6 рэспубліканскіх газэт з 11; 4 абласныя — з 6; 109 гарадзкіх, аб'ядналых і раённых — са 119.

Толькі за апошнія 10 гадоў на беларускай мове выпушчана 1.761 назва мастацкай літаратуры агульным тыражом амаль 34 мільёны экзэмпляраў, у тым ліку беларускіх аўтараў — 1.432 назвы агульным тыражом 27 мільёнаў.

За гэты час выйшлі поўнае і кароткае выданьні «Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі», 39 тамоў «Беларускай народнай творчасьці», ажыцьцяўляецца выпуск «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», «Энцыкляпэдыі літараутры і мастацтва Беларусі». Выдаюцца на беларускай мове выбраныя творы У. І. Леніна ў дзесяці тамох, рыхтуюцца да выпуску выбраныя творы К. Маркса і Ф. Энгельса.

Дык якое-ж гэта забыцьцё роднай мовы, роднай культуры!

Хто памыляецца ў гэтых пытаньнях, яму трэба дапамагчы разабрацца. Хто хацеў-бы драматызаваць іх, павінен ведаць, што гэта не на карысьць перабудове, справе выхаваньня.

## *НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД*

***Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва былі атрыманыя ахвяры:***

| | |
|---|---|
| К. Калоша | $500 |
| С. Карніловіч | 300 |
| І. Каляда-Сьмірнова | 200 |
| Бел.-Ам. Жан. Згурт. ў Кліўленьдзе | 150 |
| Я. Раковіч | 100 |
| А. Лук'янчык | 50 |
| Ю. Радзюк (Вайдэр) | 50 |
| Г. Мароз-Лічко | 50 |
| М. Раецкі (Аўстралія) | 25 |

Па 25 дал. ахвяравалі: Ю.Каляда, Я.Ханенка, К.Каляда, В. Яцэвіч, А.Кабяка, Э.Яраховіч, Ц.Іванка, К. і В.Валюкевічы, а.М.Страпко, Ю.Гасьцееў, А.Міраеўскі, А.Семянчук, Я.Лягуш, М.Калядка, В.Радзюк, А.Сацэвіч, А.Стрэчань, М.Ягаўдзік, А.Яраховіч, Ю.Станкевіч, Т.Кананчук, Я.Каваленка, К.Вайцяхоўскі, К.Маталыцкі, матушка М.Войтэнка.

| | |
|---|---|
| Разам | $2050 |
| Н. Орса (замiж кветак на магілу в.п. Фуни Даніловіч) | 30 |
| А. Асіпчык | 180 |

Усім ахвярадаўцам шчырая падзяка. Управа БІНіМу спадзяецца, што беларускае грамадзтва будзе й надалей падтрымваць заплянаваную выдавецкую дзейнасьць Інстытуту ды дапаможа стварыць спэцыяльны выдавецкі фонд БІНіМу.

*Красаваік 1987 г.*

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва**

### СЯРЭДНЯЯ ПРАЦЯГЛАСЬЦЬ ЖЫЦЬЦЯ Ў СССР

Паводля апошняга статыстычнага даведніка «Народное хозяйство СССР», сярэдні век мужчыны ў Савецкім Саюзе ў другой палавіне 1985-першай палавіне 1986 г. быў 64 гады, жанчыны — 73 гады.

# ЛІСТ ДА ГАРБАЧОВА

*(Працяг з 1-й б.)*

пэдагагічныя інстытуты рэспублікі не займаюцца рыхтаваньнем настаўніцкіх кадраў для школаў зь беларускай мовай навучаньня.

Навочна паказвае стан роднае мовы ў БССР кнігавыдавецкая справа. Даволі сказаць, што ўдзельная вага мастацкае літаратуры (у друкаваных аркушах-адбітках), якую выпушчаюць рэспубліканскія выдавецтвы ў расейскай мове, узрасла з 89,9% у 1981 г. да 95,3% (!) у 1984 годзе. Практычна няма ў Беларусі і кінэматаграфіі ў роднай мове. З паўтара дзесяткоў тэатраў у рэспубліцы ўсяго тры беларускія. Беларуская мова як рабочая мова і мова справаводзтва блізу ня ўжываецца ні ў партыйных, ні ў савецкіх, ні ў дзяржаўных органах і ўстановах рэспублікі.

***«Колькі юных маіх суродзічаў уваходзяць у сьведамае жыцьцё нацыянальна нясьведамымі, ня ведаючы свае роднае мовы, ня цікавячыся нацыянальнай мастацкай літаратурай, культурай, гісторыяй свайго народу!».***

Ніл Гілевіч, першы сакратар управы Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, на ўсесаюзным пісьменьніцкім пленуме ў Маскве. «Литературная газета», 6.V.1987.

Апошнім часам, як рэакцыя на гэткае палажэньне, назіраецца значны рост нацыянальнае самасьведамасьці. Гэта сваім парадкам выклікае адмоўную рэакцыю з боку бюракратыі. Асобаў, якія карыстаюцца роднай мовай, цірэдчас аўтаматычна залічаюць у «нацыяналісты». Дзеля гэтага навет проста пасьлядоўнае карыстаньне беларускай мовай вымагае пэўнае грамадзянскае мужнасьці.

Мы перажываем складаны пэрыяд гісторыі беларускага народу, калі вымагаюцца станаўкія захады дзеяньня для ўратаваньня (менавіта ўратаваньня, бо паасобныя мерапрыёмствы павярхоўна-касмэтычнага характару стану не папраўляць) роднае мовы, роднае культуры, а значыць беларускага народу ад духовага выміраньня. Дзеля гэтага, на наш пагляд, канечна трэба ўжыцьцёвіць перш-наперш наступныя мерапрыёмствы:

а) узяцца за ўвод беларускае мовы ў якасьці рабочае ў партыйныя, дзяржаўныя (перш за ўсё гэта датычыць да міністэрстваў асьветы, культуры, вышэйшае й сярэдняе адукацыі, сувязі, дзяржаўных камітэтаў да справаў выдавецтваў, паліграфіі й кніжнага гандлю, кінэматаграфіі, тэлебачаньня й радыявяшчаньня, Акадэміі навукаў) і савецкія органы ды ўстановы рэспублікі;

б) увесьці абавязкавы выпускны экзамен зь беларускае мовы й літаратуры (укладаньне) ў сярэдняй школе і зь беларускае мовы (дыктант) у васьмігадовай (няпоўнай сярэдняй) школе, незалежна ад таго, у якой мове вядзецца навучаньне ў гэтых школах;

в) увесьці абавязкавы для ўсіх абітурыентаў (апрача прыбылых з-за межаў БССР і СССР) уступны экзамен зь беларускае мовы і літаратуры (укладаньне) ува ўсіх вышэйных навучальных установах і зь беларускае мовы (дыктант) у сярэдніх спэцыяльных навучальных установах (тэхнікумы) рэспублікі.

Беларуская мова — адна з асноваў існаваньня дзяржаўнасьці беларускага народу, і дзеля гэтага яна павінна ахоўвацца заканадаўнымі актамі. Ейнае выкарыстаньне ўва ўсіх сфэрах дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця павінна забясьпечвацца ды стымулявацца усеабсяжным комплексам мерапрыёмстваў, арганічную частку якіх становяць і мерапрыёмствы для патрыятычнага ўзгадаваньня («Комплекс прапановаў дзеля карэннага палепшаньня стану роднае мовы, культуры й патрыятычнага ўзгадаваньня ў Беларускай ССР» на 6-х старонках далучаем). Мы ўважаем, што папярэдняй умовай ужыцьцёўленьня гэтых мерапрыёмстваў павінна быць абнаўленьне кадраў, якія не зацікаўленыя ў разьвіцьці й асьветы ў беларускай мове, у Міністэрстве вышэйшае й сярэдняе спэцыяльнае асьветы, Міністэрстве культуры, Дзяржкіно, Дзяржтэлерадыё Беларускай ССР.

Паважаны Міхаіл Сяргеевіч! Мы не карыстаемся ў гэтым лісьце цытатамі ведамых выказваньняў аб разьвіцьці нацыянальных культураў і моваў выдатных мысьліцеляў, палажэньняў у гэтым пытаньні клясыкаў марксызму, глыбокіх мудрых выказваньняў У. І. Леніна, таксама як і ня сталі спасылацца на агульнаведамыя праграмныя дакумэнты ў гэтым пытаньні партыйных зьездаў. Мы пастараліся выкласьці факты й нашыя меркаваньні аб мерапрыёмствах, на наш пагляд канечных дзеля палепшаньня палажэньня з роднай моваю ў рэспубліцы.

Нашыя прапановы (зразумела, далёкія ад паўніні), далучаныя ў форме дадатку, абапіраюцца на наяўныя ў рэспубліцы рэаліі ды выкліканыя адсутнасьцяй тых неабходных кампанэнтаў, тых складовых частак, якія кормяць жыцьцядайнай сілай кожную разьвітую культуру, кожную нацыянальную мову.

Мы пэўныя, што выкладзеныя намі праблемы знойдуць Вашае зразуменьне, спадзяёмся на Ваш асабісты ўдзел і падтрыманьне ў іхным разьвязаньні. Думаем, што гэты ліст можа выклікаць зацікаўленьне ды стацца карысным у працы надыходзячага пленуму ЦК КПСС у пытаньнях ідэялягічнае работы.

Мы перакананыя, што толькі паленінску мудрае, справядлівае разьвязаньне пытаньня ўзаемадзеяньня культураў і моваў, запраўднае, рэальнае забясьпечаньне іхнага раўнапраўя, усебаковае й поўнакроўнае разьвіцьцё — зарука й гарантыя праўдзіва інтэрнацыяналісцкіх дачыненьняў між народамі нашае краіны, дачыненьняў запраўднай дружбы ды ўзаемазразуменьня.

З глыбокай пашанай:

**Содаль В. І.**, член Саюзу журналістаў СССР, рэдактар тэлечасапісу «Роднае слова» Дзяржтэлерадыё БССР
**Мірачыцкі Л. П.**, кандыдат гістарычных навук
**Маркавец В. П.**, член Саюзу мастакоў СССР, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамолу Беларусі
**Каханоўскі Г. А.**, кандыдат гістарычных навук, член Саюзу пісьменнікаў СССР
**Кулік Я. С.**, член Саюзу мастакоў СССР
**Лецка Я. Р.**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, кандыдат філялягічных навук
**Рашчынскі А. В.**, член Саюзу кампазытараў СССР
**Лаўрэль Б. М.**, старшы навуковы супрацоўнік навукова-дасьледніцкага інстытуту пэдагогікі Мінасьветы БССР
**Лыч Л. М.**, кандыдат гістарычных навук
**Зайкоўскі Э. М.**, кандыдат гістарычных навук
**Вярэніч В. Л.**, кандыдат філялягічных навук
**Талстой В. С.**, кандыдат гістарычных навук
**Арочка М. М.**, доктар філялягічных навук, вядучы спэцыяліст Інстытуту літаратуры АН БССР, член Саюзу пісьменьнікаў СССР
**Разанаў А. С.**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР
**Шчэмелеў Л. Д.**, народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР
**Конан У. М.**, доктар філязофскіх навук, вядучы супрацоўнік Інстытуту філязофіі і права АН БССР, член Саюзу пісьменьнікаў СССР
**Барадулін Р. І.**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР ім. Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамолу Беларусі
**Панчанка П. Е.**, народны пісьменьнік БССР, лаўрэат дзяржаўных прэміяў СССР і БССР
**Быкаў В. У.**, народны пісьменьнік БССР, лаўрэат Ленінскае прэміі СССР, лаўрэат Дзяржаўнае прэміі СССР, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамолу
**Дудараў А. А.**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, член Саюзу тэатральных дзеячоў СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамолу
**Адамчык В. У.**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, лаўрэат літаратурнай прэміі ім. І. Мележа
**Вітка Васіль**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, заслужаны дзеяч культуры БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі
**Станюта С. М.**, народная артыстка БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР
**Лужанін Максім**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, заслужаны дзеяч культуры БССР, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа
**Агуновіч Э. К.**, член Саюзу мастакоў СССР, заслужаны работнік культуры БССР
**Пархоменка В. В.**, заслужаная артыстка БССР, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады, дыплямант Сусьветнага конкурсу моладзі й студэнтаў
**Кудравец А. П.**, член Саюзу пісьменьнікаў СССР, галоўны рэдактар часапісу «Нёман»
**Брыль Янка**, народны пісьменьнік БССР, лаўрэат Дзяржаўных прэміяў СССР і БССР, лаўрэат літаратурнай прэміі ім. Якуба Коласа

15 сьнежня 1986 г.
г. Менск

*У наступным нумары будзе зьмешчаны «ДАДАТАК з прапановамі для карэннага палепшаньня палажэньня роднае мовы, культуры й патрыятычнага ўзгадаваньня ў Беларускай ССР»*

## ЧАРНОБЫЛЬ...

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

вытворчыя пляны, а ня людзі, якім гэтыя пляны даводзіцца выконваць. Гэты мамэнт ігнараваньня людзкое трагедыі, стваранне ўражаньня, што вялікае бяды няма, няма пакутаў, страху, — закрануў у выступленьні на пісьменьніцкім пленуме у Маскве ў канцы красавіка сёлета беларускі паэт Ніл Гілевіч. Гілевіч гаварыў, што на Беларусі перабудова ідзе «слаба». І падаў «переканальны прыклад: «Роўна год таму, — сказаў Гілевіч, — на Палесьсі стрэслася вялікая бяда. Мінуў цэлы год, але так і ня відаць, што гэта ўскалыхнула, узрушыла нашых пісьменьнікаў, што значна пабольшала ў іхным слове заклапочанасьці, болю, трывогі». («Літ.газ.», 6.V.87). Тое самае трэба сказаць і пра беларускіх журналістаў.

Угодкі Чарнобыля былі адзначаныя ў друку БССР у духу зацісканьня тэмы, якая аніяк не на руку рэспубліканскім, абласным і ніжэйшым мясцовым чыноўнікам, з чые віны было дапушчана цімала трагічных памылак і недагляду.

Некаторыя з гэтых праступных «недагляду» хваля галоснасьці вынесла наўзьверх, хоць ізноў-жа ня ў менскіх газэтах. Гэтак, прыкладам, у маскоўскім часапісе «Аргументы и факты», у леташнім 37-м нумары, былі зьмешчаныя допісы ад чатырох жанчын з Брагіна й гарадзкога пасёлка Камарын Брагінскага раёну. Жанчыны жаліліся на Савет міністраў БССР, які выявіўся бездапаможным першымі днямі аварыі. Адна жанчына пісала, што яна працавала ў пінерскім лягеры 29 км. ад Чарнобыля (афіцыйна «небясьпечная зона» была на 30 км. ад Чарнобыльскае АЭС). Ніякага праваўраньня дзяцей на радыяцыю ў ейным лягеры не рабілася, людзям першымі днямі катастрофы ніхто нічога не казаў пра небясьпеку, дзяцей не эвакуавалі. Іншая жанчына ў тым-жа нумары «Аргументов» пісала, што ў Брагінскім раёне чыноўнікі сваіх дзяцей павывозілі, а дзецьмі звычайных людзей афіцыйныя інстанцыі не займаліся.

У маскоўскай газэце «Советская Культура» (25.IV.87) быў зьмешчаны пад першыя ўгодкі Чарнобыля «роздум» над фільмам "Звон Чарнобыля" ведамага савецкага рэжысэра Джэмы Фірсавай. Фільм "Звон Чарнобыля", пісала Фірсава, «да нашага гледача ішоў доўга й цяжка... Зь фільму вымагалася забраць усе словы тыпу 'трагедыя', 'бяда', 'катастрофа', усяроўна, калі зь фільму будуць выкінутыя гэтыя словы, існасьць таго, што здарылася, перастане быць гэткай. Якую маральную й грамадзянскую навуку могбы прыпаднесьці нам гэткі 'лякіраваны' фільм? Ніякае, апрача аднае — навукі хлусьні».

Словы гэтыя адрасаваныя шмат каму ў Савецкім Саюзе, а ў тым ліку й друку БССР, які прыпаднёс нам навуку хлусьні сваім адзначэньнем катастрофы, найбольшае ў гісторыі Беларусі за мірнымі часамі.

**Янка Запруднік**

## 2-Е ВЫД. «ЛІСТОЎ ДА ГАРБАЧОВА»

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі выдала другім выданьнем «Лісты да Гарбачова» (гл. «Б-с» № 334) зь перакладам у ангельскую мову ўступу «Ад Выдаўцоў» і тэкстаў лістоў: аднаго ад 28-х дзеячоў беларускае культуры, а другога — ад Алега Бембеля, аўтара самвыдавецкае кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс».

Выданьне можна набыць, пішучы на адрас: ZBVB, 52 Penn Rd., London N7 9RE.